Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 160.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 24 лістапада 1998 г. № 126 (518) Кошт свабодны

*Роўна год таму беларускія ўлады забаранілі газету СВАБОДА. Як толькі ў краіну вернецца дэмакратыя — мы зноў будзем СВАБОДАЙ.*

**СВАБОДА**

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## На Ігналінскай АЭС спрацавала аварыйная сістэма

**У чацвер адбылося надзвычайнае здарэнне на Ігналінскай атамнай электрастанцыі.**

Як нам паведамілі ў літоўскай інспекцыі па ядзернай бяспецы, спыніўся блок № 1 атамнай электрастанцыі. Прычынай паслужылі непаладкі ў аварыйнай сістэме, якая спрацавала на памылковы сігнал аб павышэнні ціску. Падобнае «няправільнае» адключэнне рэактара здарылася не першы раз.

У суботу блок № 1 на Ігналінскай АЭС зноў запусцілі, і ён працуе ў ранейшым рэжыме. Па словах літоўскіх атамшчыкаў, ніякіх зменаў радыяцыйнага фону на тэрыторыі АЭС і на прылеглых тэрыторыях не зарэгістравана.

Дарэчы, адпаведныя беларускія службы, да якіх мы звярталіся ўчора, прадаставілі нам вельмі дзіўную інфармацыю пра здарэнне на АЭС. Напрыклад, у рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны паведамілі, што гэта было *«планавае адключэнне рэактара»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Падкінулі на беднасць

**Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб сацыяльнай падтрымцы работнікаў бюджэтнай сферы».**

Пастанова прадугледжвае падвышэнне з 1 лістапада акладаў настаўнікаў, міліцыянтаў, лекараў, вайскоўцаў і «вертыкальшчыкаў» на 25 працэнтаў, а таксама даплаты ў памеры да 600 тысяч рублёў.

Стыпендыя ў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і ПТВ стане большай на 20 працэнтаў. Гэтаксама на 20 працэнтаў павялічацца памеры дапамогаў па беспрацоўі.

Натуральна, што падвышэнне заробкаў у сувязі з высокай інфляцыяй не было закладзенае ў сёлетні дзяржаўны бюджэт, таму за гэты тыдзень міністэрству фінансаў трэба прыдумаць, дзе знайсці дадатковыя грошы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# «Невінаватая я!»

**Прэзідэнт Беларусі лічыць, што рост цэнаў у краіне быў справакаваны самім насельніцтвам, якое стварыла ажыятажны попыт.**

Так заявіў Аляксандр Лукашэнка ў мінулы чацвер на паседжанні створанага ім штаба для вырашэння актуальных эканамічных праблемаў. Галоўныя тэзісы прэзідэнцкага выступлення былі наступнымі: эканамічная сітуацыя ў краіне знаходзіцца пад кантролем, і прэзідэнт працуе, не шкадуе сябе, каб вывесці дзяржаву з крызісу. А ў тым, што растуць цэны і няма звычайных прадуктаў, вінаватыя чыноўнікі і ажыятажны попыт насельніцтва.

Лукашэнка ўжо не першы раз выкарыстоўвае гэты трук, каб пераканаць даверлівы электарат, што прэзідэнт тут ні прычым. Асабліва абураўся Рыгоравіч тым, што ўрад у два разы падвысіў цану на гарэлку: *«Няўжо зрухі ў цэнах нельга было правесці ў тры — чатыры прыёмы? Але нават калі і ў два разы, вы што, не ўмееце гэта рабіць? Навошта вы ганьбіце народ і самі ганьбіцеся? Няўжо была такая неабходнасць выстройваць увесь народ у чэргі? Вы проста ненавідзіце свой народ»*. Мясніковіч, Лінг і кампанія сядзелі, як мышы пад венікам, і пакорліва выконвалі адведзеную ім у гэтым спектаклі ролю вінаватых шкаляроў.

Прэзідэнт прыгразіў зрабіць *«самыя жорсткія вывады»* ў дачыненні да міністра сельскай гаспадаркі Івана Шаколы і ўрада ў цэлым, калі на працягу бліжэйшых дзесяці дзён вёска не будзе пераведзеная *«на ваенныя рэйкі»* і не будзе забяспечаная *«нармальная зімоўка жывёлы»*. *«Жывёла павінна быць пастаўленая ў нармальныя ўмовы на зімоўку, і зімой трэба атрымаць патрэбны ўзровень прадукцыі. Толькі тады мы можам сказаць, што ў студзенілютым мы будзем са сваімі прадуктамі харчавання і зможам за газ і нафту паставіць іх у Расію»*, — заявіў Лукашэнка.

Па яго словах, у адстаўку можа быць адпраўлене і кіраўніцтва міністэрства гандлю, калі ў магазінах будзе працягвацца *«псаванне прадукцыі»*.

Прэзідэнт звярнуўся да кіраўніка Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча з патрабаваннем *«напружыць банкаўскую сістэму»*, каб расплаціцца з сялянамі за пастаўленую мяса-малочную прадукцыю.

Лукашэнка паведаміў таксама аб намеры ў бліжэйшы час заслухаць кіраўнікоў судовай галіны ўлады. Па яго словах, *«суды на 50 працэнтаў самаўхіліліся ад выканання сваіх абавязкаў, гэта перш за ўсё тычыцца гаспадарчага суда»*. *«Накладаюцца штрафы, канфіскуецца маёмасць, а паступленняў — не сто працэнтаў, хаця ў апошні час я падтрымаў суддзяў, як ніякую іншую галіну ўлады»*, — заявіў прэзідэнт і дадаў, што ні адна галіна ўлады не знаходзіцца па-за кантролем кіраўніка дзяржавы. *«Я ўсё бачу, усё кантралюю, я ведаю сітуацыю, якая складваецца ў нашай дзяржаве»*, — падкрэсліў Лукашэнка.

Прэзідэнт яшчэ доўга гразіўся, патрабаваў і загадваў, але адказу на галоўнае пытанне — як выратаваць беларускую эканоміку і насыціць рынак таварамі — у яго доўгім маналогу так і не прагучала. Складваецца ўражанне, што ўвесь гэты 40-хвілінны выступ, які трансліравала БТ замест вечаровых навінаў, быў патрэбны толькі для таго, каб кіраўнік дзяржавы мог пракрычаць на ўсю краіну, як гераіня адной вядомай савецкай камедыі: «Невінаватая я!»

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ, Дзмітрый УЛАСАЎ**



*Больш за 10 тысяч аўтамабіляў праверыла міліцыя за апошнія тры месяцы на межах Магілёўскай вобласці з расійскімі рэгіёнамі. Як адзначалася на калегіі абласнога ўпраўлення міліцыі, за гэты час было канфіскавана тавараў больш, чым на 41 мільярд рублёў і амаль 40 аўтамабіляў.*

## Чыгунку – на замок

**У Гомелі вырашылі значна скараціць колькасць рэйсаў дызель-цягнікоў у накірунку ўкраінскай і расійскай мяжы.**

Цяпер з Гомеля ў Навазыбкаў (Расія) прыгарадным цягніком можна будзе патрапіць толькі ў пятніцу і нядзелю, а ў Харобічы (Украіна) — усяго адзін раз на тыдзень. Раней цягнікі хадзілі штодня.

Ініцыятыва скасавання рэйсаў зыходзіла з Гомельскага аблвыканкама. Праверышы з пачатку верасня на межах з Украінай і Расіяй 11 тысяч адзінак аўтатранспарту, міліцыянты Гомельшчыны выявілі 133 факты незаконнага вывазу тавараў і канфіскавалі 31 аўтамабіль. Але харчовых тавараў у гомельскіх крамах не пабалела. Відаць, гэта і прымусіла абласное кіраўніцтва звярнуць увагу на прыгарадныя чыгуначныя транспарт: можа, з яго дапамогай «нахабныя» ўкраінцы ды расіяне спусташаюць харчовы рынак вобласці.

Каб гэта высветліць, міліцыя ўжо правяла два «шмоны» пасажыраў рэйса Гомель—Навазыбкаў. Дзеля гэтага цягнікі былі нечакана спыненыя на даўно закінутым прыпынку «Закапыцце», што на мяжы з Расіяй. Абодва разы «ўлоў» міліцыянтаў склаў каля 100 кілаграмаў масла, 100 пачкаў сухога малака, каля 1.000 штук яек плюс невялікая колькасць іншых прадуктаў.

Транспартная міліцыя абяцае, што аблавы на дызелях будуць праводзіцца рэгулярна. А можа лепш зусім адмяніць прыгарадныя рэйсы ў суседнія краіны?

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Арыштаваны «Бізнес-цэнтр»

Следчая група Пракуратуры Беларусі ў мінулы чацвер наклала арышт на частку комплексу «Бізнес-цэнтр», размешчанага на праспекце Францыска Скарыны ў Мінску каля мікрараёна Уручча. Кошт арыштаванай маёмасці складае 1 мільён 600 тысяч долараў.

Як паведаміў прэс-цэнтр Пракуратуры РБ, маёмасць «Бізнес-цэнтра» была арыштаваная, каб кампенсаваць страты «Беларусбанка» ад незвароту аднаго з крэдытаў.

Следчая група Пракуратуры Беларусі займаецца расследаваннем крымінальнай справы аб злоўжываннях службовых асобаў акцыянернага камерцыйнага банка «Беларусбанк». На сённяшні дзень «Беларусбанк» не можа далічыцца больш за 20 мільёнаў долараў і 8 мільёнаў нямецкіх марак па крэдытах, якія банк калісьці выдаў розным фірмам. Таму цяпер дзяржаўны «Беларусбанк» выбівае грошы з даўжнікоў пры дапамозе пракуратуры і МУС.

Паводле нашай інфармацыі, комплекс «Бізнес-цэнтр» будаваўся з удзелам фірмы «Энергія», якую заснаваў і некалькі гадоў узначальваў Дзмітрый Шаткін, былы намеснік старшыні «Беларусбанка». Сёння Дзмітрый Шаткін знаходзіцца за межамі Беларусі, магчыма — у Ізраілі.



У 1996 годзе мы пісалі, што кошт аднаго квадратнага метра ў «Бізнес-цэнтры», будаўніцтва якога на той момант было яшчэ нават не завершанае, перавышае дзве з паловай тысячы долараў. Таму не дзіва, што сёння агульны кошт комплексу «Бізнес-цэнтр» ацэньваецца ў 25 мільёнаў долараў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## «Цукровая» субота

**Цыгарэты айчыннай вытворчасці і цукар будуць прадавацца ў Гродне толькі па суботах. Рашэнне аб гэтым прыняў Гродзенскі аблвыканкам.**

Па словах чыноўнікаў, такі рэжым гандлю накіраваны найперш на задавальненне патрэбаў людзей, занятых у будні дні на працы, паколькі пенсіянеры і беспрацоўныя на працягу некалькіх гадзінаў раскуплялі ўсю дэфіцытную прадукцыю. Яшчэ далей пайшлі мясцовыя ўлады Смаргонскага і Ашмянскага раёнаў: такія прадукты, як масла і сыр, там можна купіць пасля 15 і 16 гадзінаў.

*БелаПАН*

## Даяркі сказалі «не!»

**У Жлобінскім раёне днямі забаставалі даяркі саўгаса «Наперад» — жанчыны адмовіліся даіць кароў.**

Іхні месячны заробак складае каля 2 мільёнаў рублёў, але і гэтыя «капейкі» даяркі не атрымліваюць са жніўня. А выбух інфляцыіператварыў літаральна ў пыл яшчэ не атрыманыя грошы. Таму жанчыны вырашылі спыніць работу.

На роў нядоеных цялушак прыбег сам дырэктар саўгаса Ю.Побат. Пасля цяжкай размовы даяркі ўсё-такі прыступілі да работы, але толькі пасля таго, як дырэктар цвёрда паабяцаў праз тыдзень выплаціць грошы.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## 6 мільёнаў «на брата»

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі Беларусі, сярэдні заробак сярэдняга беларуса ў кастрычніку гэтага года склаў 6 мільёнаў 102 тысячы рублёў або 30 долараў па рынычным курсе. Для параўнання: у Польшчы сярэдні заробак складае 350 долараў, у Чэхіі — 320, у Літве — 250 долараў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

*Убийство Галины Старовойтовой*

# Трагедия не только для России

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Сегодня в Санкт-Петербурге хоронят Галину Старовойтову, убитую в ночь с пятницы на субботу двумя неизвестными.

Реквиемом звучат телевизионные передачи и газетные строки. Практически все политические партии и движения (включая даже те, которые всячески хаяли и хулили Галину Васильевну при жизни) в той или иной форме выразили соболезнование. Временами это отдавало пошлостью — как, например, казенные формулировки типа того, что убийцы Старовойтовой, оказывается, «преступили грань дозволенного», или, еще пуще, когда ОРТ почему-то пустило кадры под рубрикой «Убита Галина Старовойтова» среди рекламных роликов. Реквием по Галине Старовойтовой отразил аномалии современной России.

Академик Лихачев назвал убийство Старовойтовой «расстрелом российской государственности». И это не громкие слова — так оно и есть, если вкладывать в слово «государственность» не шовинистический смысл, а именно тот, что и подразумевал Дмитрий Сергеевич. Т.е. создание нормального, цивилизованного государства.

Помнится, рок-музыкант и поэт Андрей Макаревич както отмечал, что складывается впечатление, будто российские политики просто распределили между собой роли: мол, ты будешь «правым», а ты — «левым»; этими ролями они вполне могут поменяться без ущерба для содержания политики. Галина Старовойтова была одним из редких исключений из этого правила, одним из очень немногих действующих российских политиков, которые никогда не забывали, что в их сфере деятельности есть не только интересы, но и принципы.

В пору перестройки, на которую и приходится пик популярности Галины Васильевны, таких политиков было больше. Все они очутились на обочине или же вообще за рамками активной политики, и уж, во всяком случае, вдалеке от властных структур. В те времена представлялось, что общество двинется либо назад, в коммунистическое прошлое, — либо вперед, по цивилизованному пути, к демократическому и правовому государству. Как выяснилось, можно двигаться еще и в сторону, какими-то бестолковыми зигзагами.

Главная беда России (как и Беларуси) — в том, что люди с нормальными человеческими понятиями о нравственных ценностях почему-то оказались совершенно лишними в эшелонах власти постперестроечной эпохи. Более того, таких людей там и не предвидится, а если кто-то чудом попадет наверх, то сломает



*Галина Старовойтова.*

зубы о систему, которая, при всей ее несуразности, уже успела затвердеть.

И в российских, и в белорусских органах власти — острый дефицит просто порядочных людей. Что уж говорить о профессионализме, о политических установках, способных вывести страну из тупика, а не погрузить ее в болото еще глубже. Нормальные и разумные люди, если они не переродились, как-то не прижились во властных кабинетах обоих государств.

Галина Васильевна не стала исключением. В 1989 году ее избрали народным депутатом СССР, и она была одной из самых ярких фигур на том памятном Съезде. В 91-м, когда, как казалось, победила демократия, Г.Старовойтова становится советником президента России по межнациональным вопросам. Но уже в 1992 году ее освобождают от этих обязанностей без объяснения причин.

Однако из активной политики Г.Старовойтова не ушла. Была депутатом Госдумы, возглавляла партию «Демократическая Россия» и работала в направлении объединения демократических сил страны.

Еще при жизни Галины Васильевны ко мне не раз закрадывалась в голову мысль: а что, если бы ее усилия по объединению увенчались успехом, и именно ее эти самые объединенные силы выдвинули кандидатом в президенты? Нет-нет, я не переоцениваю вероятность такого варианта: она не была велика — однако, с другой стороны, в истории случались и куда более невероятные вещи. Не берусь оценивать ее шансы победить на выборах, но думаю, что они были бы больше, чем у других демократов, чьи фамилии на слуху. Во всяком случае, проголосовать за честного и разумного человека, за обаятельную женщину, при эффективно проведенной избирательной кампании могла бы значительная часть населения России — тем более в условиях кризиса, безысходности, разочарования как во властях, так и в оппозиции, усталости от перекошенных злобой лиц политиков перекошенного государства. Как бы там ни было, вероятностью, — но я убежден, что для России это был бы очень неплохой вариант. Может быть, оптимально возможный.

Нельзя исключить, что этот вариант и послужил детонатором для заказчиков убийства, и Старовойтову решили уничтожить на дальних подступах. Не верится, чтобы это злодейство было связано с ее выдвижением на региональном уровне, в законодательное собрание Петербурга. Известно, что Галина Старовойтова вызывала прямо-таки бешеную ярость у «красных» и «коричневых». Даже не занимая высокого государственного поста, она всегда оставалась объектом их неустанных проклятий.

Расстрел Галины Старовойтовой в подъезде дома, где она жила, мог быть просто кровавой демонстрацией расправы с противником. Ведь убийцы даже не попытались хотя бы создать видимость корыстного преступления и не взяли деньги, которые были у Галины Васильевны.

Но если это злодеяние действительно совершено с дальним политическим прицелом, то заказчиками могли быть и не «красно-коричневые», а те внешне респектабельные люди, которые заинтересованы в сохранении теперешней олигархической системы. Понятия «права человека» и «демократия» для Галины Старовойтовой были не средством манипуляций и достижения карьеры (очевидно, потому-то на высоких постах она и не задержалась), а ценностями, за которые она бескомпромиссно боролась.

## Галина Старовойтова не раз подчеркивала свое особое отношение к Беларуси

Галина Старовойтова не раз подчеркивала свое особое отношение к Беларуси. По словам Галины Васильевны, она — этническая белоруска, в Беларуси живут ее родственники, ее предки родом из Гомельской области, а сама она большую часть детства провела в Молодечно. Г.Старовойтова была одним из немногих российских политиков, приехавших в Беларусь в канун «референдума» 96-го. И затем она продолжала внимательно следить за развитием политической ситуации в нашей стране. *«При Шушкевиче Беларусь воспринималась как неотъемлемая часть Европы, а теперь в Беларуси тихо создается тоталитарная, фашистская модель»*, — сетовала Галина Старовойтова.

Весной этого года 52-летняя Галина Старовойтова вышла замуж. У нее остался сын от первого брака и внук, младший школьник.

Светлая память Вам, Галина Васильевна.

# Лукашенко поскользнулся на яйцах

*Статья из газеты «Московский комсомолец»*

Годами создаваемый белорусским президентом миф о своей республике как о благополучной стране с дешевыми продуктами, чистыми улицами и доброжелательными жителями рухнул. Российский кризис и стальная хватка «Газпрома» сделали то, чего оппозиция добивалась годами. Народные массы больше не дремлют.

Теперь у электората Лукашенко нет времени, прильнув к экранам телевизоров, вслушиваться в речи своего кумира. Теперь задача — встать пораньше и занять место в очереди. Людские потоки выстроились в эти дни за яйцами, творогом, маслом, молоком и птицей. В лексикон вернулись забытые слова и самым привилегированным классом вновь стали товароведы и продавцы.

Не на шутку испугавшаяся власть вынуждена была признать допущенные ошибки, и под руководством Лукашенко был создан Штаб по спасению республики. В него вошли первые лица правительства, администрации президента и даже Совета безопасности, каждый из которых взялся курировать кормление отдельно взятой области.

Лукашенко пригрозил, что если до 1 декабря положение не исправится, весь правительственный аппарат будет уволен. Но исправить ситуацию способен разве что Копперфилд. Дело в том, что продовольственный кризис — это следствие задолженности Беларуси перед «Газпромом». С ним Лукашенко обязался расплачиваться харчами. На сегодня Беларусь поставила харчей лишь на 5 миллионов долларов. Даже если белорусы перестанут есть вообще, то и тогда не смогут все вернуть.

Гораздо трагичнее выглядят внутренние причины экономического обвала. Небывалый упадок переживает все сельское хозяйство республики. В поисках утраченных молокопродуктов собкор «Московского комсомольца» проехался по деревням. Оказалось, что коровы перестали давать молоко. Из-за дурной погоды колхозы не смогли в этом году заготовить достаточно сена и вынуждены кормить буренок сенажом, то есть консервированной травой. Надои резко упали. Обычно на сенажное кормление скот переходит ближе к весне, а осень и зиму коровки кушают сено. В этом году даже погода обернулась против Лукашенко. Можно только догадываться, что начнется в марте, когда закончится и консервированная трава.

Тем временем белорусские бизнесмены, у которых жировая прослойка потолще, догуливают последние деньки. На днях московский шоумен Николай Фоменко устроил в Минске «Империю страсти». За просмотр голого женского тела надо было заплатить аж 10 миллионов белорусских рублей, что равняется 60 долларам или трем зарплатам рабочего. Притом, что ночь с проституткой в Минске сегодня стоит 10 долларов. Гулянка сотни богачей во главе с Фоменко напоминала последние дни нэпа.

И вот с этим классом Лукашенко решил серьезно разобраться. Со дня на день в стране ждут введения нового порядка регистрации предприятий, которым предусмотрена отмена такой формы собственности, как ООО, и личная имущественная ответственность учредителей перед законом. Переписанная на жену квартира теперь будет рассматриваться как факт сокрытия доходов. Кроме того, ожидается монополизация всего импорта в стране и непременная стопроцентная продажа валютных средств государству.

Власть затягивает гайки, а народ — пояса.

**Екатерина ВИАН,**
*«Московский комсомолец» (20 ноября 1998 г.)*

# На Украине тоже кризис

*«Глубокий, затяжной кризис сильно истощил украинскую экономику. Его последствия непредсказуемы»*, — заявил в прошлый четверг в парламенте президент Украины Леонид Кучма, выступая с внеочередным посланием к Верховному Совету.

Глава государства считает, что Украина *«идет к катастрофе, хотя драматизировать ситуацию не следует»*. Он сообщил, что ВВП в текущем году может упасть на 1,5%. За 10 месяцев объем экономического производства сократился на 0,8%, зарегистрирован спад сельскохозяйственного производства. Леонид Кучма отметил рост задолженности по выплатам зарплаты, платежного кризиса. Задолженность по всем выплатам превышает 8,5 млрд. гривен, то есть 60% всей денежной массы. Президент считает, что стабильность национальной валюты — гривны — поддерживается искусственно. *«Нам следует немедленно отказаться от этого»*, — подчеркнул Кучма. Он считает, что на Украине следует перейти к свободному курсу гривны. Президент высказался против «безоглядной эмиссии».

Леонид Кучма призвал парламент утвердить бюджет на 1999 год с дефицитом 0,6%. *«В противном случае мы не сможем обеспечить рост отечественного товаропроизводителя»*, — считает президент. Он предложил шире применять законы о банкротстве и национализации предприятий-банкротов, запретить взаимозачеты, пересмотреть налоговую политику в сторону уменьшения налогов.

# Автомобиль года

**Со значительным отрывом от соперников звание «Автомобиля 1999 года» завоевал *Ford Focus*. *Opel Astra* и *Peugeot* 206 остались далеко позади.**

Это звание присваивается ежегодно авторитетным жюри, состоящим из журналистов 21-й европейской страны, пишущих на автомобильную тему. *Ford Focus*, который должен стать преемником *Ford Escort* в соответствующей нише, получил голоса 42 из 55 членов жюри и 444 балла из 550 возможных. За все время присуждения этого почетного звания (с 1964 года) более высокие результаты были достигнуты только дважды: в прошлом году его была удостоена *Alfa Romeo 156* и десятью годами раньше *Peugeot 405*. Что же касается собственно *Ford*, это уже его четвертая победа после 1981 года *(Escort)*, 1986 *(Scorpio)* и 1994 *(Mondeo)*.

**ВЧЕРА** Россия начала переговоры с Лондонским клубом кредиторов по реструктуризации платежей по долгу бывшего СССР. Общий объем долга составляет примерно 34 миллиарда долларов.

**ЗА МИНУВШУЮ НЕДЕЛЮ** в Москве от переохлаждения погибли 11 человек; 195 жителей столицы госпитализированы с диагнозом «обморожение» и «переохлаждение».

**ЧЕТВЕРО КОМАНДИРОВ** российской погранзаставы на острове Ратманова, избивавшие солдат, получили приговоры от 15 до 23 лет лишения свободы.

**ВИЦЕ-МЭР ИЕРУСАЛИМА** высказался за выселение из города всех его русскоязычных жителей.

**В МИНУВШЕМ ГОДУ** в США на боевом посту погибли 125 полицейских, 65 из них пали от рук преступников.

**ЦРУ США** сумело заполучить полную картотеку внешней разведки ГДР с указанием имен восточногерманских агентов в странах НАТО.

**ПО МЕНЬШЕЙ МЕРЕ** 11 единиц атомного оружия США числятся «утерянными» со времен «холодной войны», сообщил журнал *Parade*.

*По сообщениям информационных агентств*

# В Москве – чистка

## *С улиц Москвы будут убирать все рекламные плакаты фривольного содержания*

Кампания против безнравственных рекламщиков начата в связи с тем, что в последнее время в органы власти стали поступать письма горожан с просьбой воспрепятствовать появлению щитов с изображением обнаженного тела, а также содержащих слоганы определенного эротического смысла. В число самых «аморальных» фирм может попасть одна из московских пейджинговых компаний, которая отрекламировала свой товар следующим образом. Со слоганом «Самая большая зона охвата» дизайнеры плаката поместили фотографию женских ягодиц с обнимающими их мужскими руками. Еще на одном плакате, попавшем в «черный список» и пропагандирующем итальянскую кухонную мебель, изображен Николай Фоменко с легко одетой девушкой на руках. Картина сопровождается словами «Я делаю ЭТО на кухне».

В ближайшие дни экспертам предстоит оценить данную продукцию на предмет этичности — не этичности. Если дело завершится не в пользу фирм, в соответствии с федеральным законом о рекламе их плакаты будут убраны с улиц Москвы.

# Новости борьбы с допингом

**Депутаты Национального собрания Франции утвердили закон против применения «лекарственных препаратов, способствующих повышению спортивных показателей». Короче, против допинга.**

Закон предусматривает тюремное заключение сроком до 7 лет поставщикам таких препаратов. Что до спортсменов, то все они должны будут проходить регулярный допинг-контроль. Законопроект был первоначально утвержден в мае французским Сенатом, но в связи с допинговым скандалом, разразившемся летом на велогонке Тур де Франс, положения закона были ужесточены. Правительство Франции рассчитывает, что закон установит новые критерии борьбы со злоупотреблением запрещенными препаратами во всем спорте. Однако, позиция МОК пока не ясна, а в ее отсутствии он может отпугнуть некоторых иностранных спортсменов от участия в состязаниях во Франции.

# «Такие муравьи физически невозможны!»

**В находящемся на северо-западе США районе ядерной промышленности Хэнфорд в канализационной трубе недавно были обнаружены радиоактивные муравьи.**

А чуть позднее такая же находка была сделана в обычном контейнере для мусора. В последнем случае радиоактивными оказались мухи и некоторые другие насекомые.

Чиновники Хэнфорда сообщили: люди не должны бояться повторения сюжета вышедшего на экраны в 50-х годах научно-фантастического фильма «Ночные хищники», в котором были показаны пораженные ядерным излучением муравьи-мутанты величиной с дом.

*«Такие муравьи физически невозможны»*, — успокоил сограждан энтомолог Ричард Зак из университета штата Вашингтон. К тому же радиоактивность насекомых в Хэнфорде чрезвычайно мала: нужно целый час простоять возле мусорного контейнера, где они обнаружены, чтобы организм человека получил примерно такую же дозу радиации, как во время обычного рентгена зуба.

# Сок тоже помогает

**Виноградный сок не менее, чем красное вино снижает риск заболеваний сердца, заявили представители американской ассоциации кардиологов, лишив, таким образом, шаткой научной опоры поклонников Бахуса.**

Группа исследователей из Джорджтаунского университета в Вашингтоне под руководством Джейн Фридман пришла к такому заключению, изучив поведение кровяных пластинок или тромбоцитов, участвующих в образовании кровяных сгустков.

Подобно красному вину красный виноградный сок содержит вещество, понижающее способность тромбоцитов образовывать сгустки. Как и красное сухое вино, виноградный сок оказывает положительный эффект, препятствуя образованию тромбов, говорит Фридман, но алкоголь действует так только при высоких концентрациях в крови, почти близких к токсическим. Фридман предупреждает любителей полакомиться виноградом, что его потребление в натуральном виде может и не оказать такого же действия, как питье виноградного сока. Оказывается, различные сорта винограда содержат различные количества флавоноидов, которые удачно концентрируются в красном виноградном соке.

# Даты і лёсы

## *24 лістапада*

**1868.** Нарадзіўся аўтар першай *джаз-оперы «Пачэсны госць»* (1911) амерыканскі кампазітар Скот Джоплін. Доўгі час працаваў піяністам у бардэлях Чыкага і Сент-Луіса.

**1874.** Амерыканец Джозэф Глідэн атрымаў патэнт на калючы дрот. Яго вынаходніцтва дапамагло развіццю пашы жывёлагадоўлі на Вялікіх Раўнінах.

**1888.** Нарадзіўся Дэйл Карнэгі, амерыканскі лектар, аўтар знакамітай кнігі.

**1943.** Нарадзіўся беларускі фехтавальшчык Віктар Сідзяк, чэмпіён Алімпійскіх гульняў у Мехіка і Мюнхене, 5-разовы чэмпіён свету, неадназразовы пераможца турніру «Шабля Валадыеўскага» ў Польшчы.

**1970.** Урад Фінляндыі звярнуўся да ўрадаў 35 краінаў з прапановай правесці ў Хельсінкі Нараду па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Праз пяць гадоў Нарада прыняла «Заключны акт», які гарантаваў непарушнасць дзяржаўных межаў у Еўропе.

**1991.** Памёр саліст папулярнага рок-гурта *Queen* 45-гадовы Фрэдзі Меркюры (Фарух Бульсара). У апошнія пяць гадоў ён паволна згасаў ад СНІДу, але гераічна працягваў здымацца ў кліпах, праявіў сябе ў оперным жанры (дуэтам з Мансерат Кабалье), запісаў два ўдалыя сольныя альбомы. Меркюры быў адной з найбольш экстравагантных асобаў і меў, напэўна, лепшы голас у гісторыі рок-музыкі.

**1996.** Завяршыўся ініцыяваны прэзідэнтам Беларусі рэферэндум па зменах у Канстытуцыю, а таксама аб пераносе Дня незалежнасці на 3 ліпеня, аб куплі і продажы зямлі і аб смяротнай кары. Пераважная большасць удзельнікаў рэферэндуму даверліва падтрымала прапановы Лукашэнкі і нават выказалася супраць прамых выбараў кіраўніцтва мясцовых органаў выканаўчай улады і фінансавання дзяржапарату толькі з законных крыніцаў.

**1997.** Беларускія ўлады забаранілі газету СВАБОДА.

## *25 лістапада*

**1855.** Памёр Адам Міцкевіч.

**1912.** Нарадзіўся Эжэн Іонэска, французскі драматург, майстар тэатра абсурду.

**1915.** Нарадзіўся генерал Аўгуста Піначчэт — былы дыктатар Чылі, які цяпер сам стаў кандыдатам у палітвязні.

**1917.** Германскі цэпелін *L-59* усталяваў рэкорд даўжыні палёту для дырыжабляў: праляцеў за 4 дні 7.250 км па маршруце Ямбол (Балгарыя) — Хартум (Судан).

**1952.** У лонданскім тэатры *Ambassadors* адбылася прэм'ера найбольш папулярнай п'есы сучаснасці «Мышалоўка» Агаты Крысці. З таго часу адбылося ўжо больш за 20 тыс. паказаў гэтага трылера, якія наведалі больш за 10 млн. гледачоў (спектакль ідзе і цяпер).

**1965.** Францыя стала трэцяй краінай, якая запусціла штучны спадарожнік Зямлі.

**1978.** У Чыкага памерла 43-гадовая Элен Эспазіта, якая больш за ўсіх людзей пражыла ў коме (бессвядомым стане) на шпітальным ложку пасля аперацыі па выдаленні апендыкса, якую ёй зрабілі ў 6-гадовым узросце: 37 гадоў 111 дзён.

**1988.** Трагічна загінула (выпала з вакна) таленавітая беларуская паэтка 40-гадовая Яўгенія Янішчыц.

## *26 лістапада*

**1796.** Неўзабаве пасля смерці Кацярыны ІІ новы імператар Павел наведаў у Петрапаўлаўскай крэпасці Тадэвуша Касцюшку і прапанаваў яму свабоду за прысягу на вернасць Расіі. Былы начальнік паўстання пагадзіўся, бо разам з ім імператар абяцаў вызваліць 12 тысяч палонных. Расчулены Павел падараваў Касцюшку 72 тыс. рублёў і футравыя боты.

**1930.** Нарадзіўся выбітны беларускі пісьменнік-рамантык Уладзімір Караткевіч. Дарэчы, сваяк аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г. Т.Грынкевіча.

**1948.** Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў Указ аб перасяленні «навечна» ў аддаленыя рэгіёны краіны немцаў, чачэнцаў, інгушаў, калмыкаў, балкарцаў, крымскіх татараў і некаторых іншых народаў. Самавольны выезд з месца пасялення мусіў карацца катаргай тэрмінам да 20 гадоў.

**1966.** Прэзідэнт Францыі дэ Голь адчыніў першую ў свеце электрастанцыю, што працуе на экалагічна чыстай энергіі марскіх прыліваў (на ўзбярэжжы паўвострава Брэтань).

**1968.** Генеральная Асамблея ААН зацвердзіла Канвенцыю пра недатычнасць тэрміну даўнасці да ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва.

**1983.** Шасцёра рабаўнікоў скралі са склада агенцтва бяспекі *Brinks Mat* у лонданскім аэрапорце «Хітроў» тры тоны залатых і плацінавых зліткаў, а таксама брыльянты на суму 26 млн. фунтаў стэрлінгаў. Неўзабаве рэкардсмены былі арыштаваныя і асуджаныя да 25-гадовага зняволення.

**1988.** Маладая пара з англійскага г.Торквэй была вымушаная праз два месяцы пасля вяселля паўтарыць усю цырымонію (якая каштавала 10 тыс. фунтаў стэрлінгаў), бо маці нявесты не спадабаўся відэазапіс святкавання. Сабраліся тыя самыя 200 гасцей, апранутыя тым самым чынам, і казалі слова ў слова тыя самыя віншавальныя прамовы, але цяпер гэта ўсё запісвала прафесійная каманда апаратараў. Цешча была задаволеная.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Слава Моники Левински дошла до Йемена

Слава Моники Левински дошла до Йемена. Как сообщает ИТАР-ТАСС, местные модницы охотно покупают полнящие фигуру наряды, получившие название «платье Моники». Кроме этого, появились духи «Моника», туфли и даже чадра нового фасона с таким же названием.

# «Виагра для бедных»

Под таким названием в Румынии поступило в продажу красное вино производства известной фирмы *Vinicola*, расположенной в восточной части страны.

Компания объявила, что у него меньше отрицательных побочных действий, чем у быстро входящих в употребление во всем мире и пока еще дорогих одноименных таблеток. Шеф *Vinicola* Сава Франку сообщил, что он лично испытывал влияние нового вина на себе в процессе его изготовления.

# На всякое Ватерлоо – свое Фонтенуа

Ватерлоо — бельгийская деревушка, возле которой французские войска во главе с Наполеоном Бонапартом, вернувшимся на 100 дней из ссылки на острове Эльба, были в 1815 году наголову разбиты союзниками под командованием герцога Веллингтона. Название битвы увековечено в имени конечной станции железнодорожного туннеля под Английским каналом, соединяющим Англию и Францию.

Это не дает покоя французскому консервативному политику Флорану Лонгепе, который считает, что французы, прибывая на станцию, каждый раз переживают горечь тогдашнего поражения великого императора. Флоран направил письмо британскому премьеру Тони Блэру с предложением переименовать станцию. В противном случае, указывает французский патриот, Франции придется изменить название своей конечной станции туннеля Гар дю Нор (Северный вокзал) в Гар дю Фонтенуа. Это тоже бельгийская деревня, у которой армия французского короля Людовика XV победила британцев в 1745 году.

*По сообщениям информационных агентств и материалам зарубежной прессы полосу подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Продан плакат «Кинг-Конга»

В Бостоне на аукционе за 62 тысячи долларов продан рекламный плакат фильма «Кинг-Конг» 1933 года. Всего таких плакатов только четыре. Имя покупателя известно — это владелец мебельного магазина Стив Ротман.



***На снимке: эти француженки учатся играть в футбол, чтобы не отстать от моды — ведь в этом сезоне во Франции нет ничего популярнее футбола. Тренировки проходят каждый день и прерываются только когда в тренировочный центр приезжает кумир девушек — бомбардир Зинетдин Зидан.***



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ **1264** Нумар падпісаны ў друк **23/11/98 (15:00)** Наклад — **18.160**